# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 36 (1280) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 7 ВЕРАСНЯ 1980 г. ЦАНА 2 зл.


З рэпарцёрскіх запісак

## НАШЫ РУКІ ДЗЕЛЯ ПРАЦЫ

Быў звычайны, будзённы дзень — пятніца, 15 жніўня. Трэці-дзень падрад свяціла сонца. З'ява ў гэтым годзе даволі рэдкая. Рашыў я тады адправіцца ў чарговы рэпарцёрскі рэйд. Хацелася паглядзець і паслухаць, як жывуць і чым дыхаюць нашы вёскі на Беласточчыне.

Найперш спыняюся ля крамы з сельскагаспадарчымі прыладамі ў Рыбалах. Загадчыкам яе з'яўляецца **Мікалай Трафімюк.** Працуе ён тут ўжо шосты год. Сяляне аднагалосна хваляць яго за руплівасць і дбайнасць пра асартымент неабходных тавараў.

— У Заблудаве і Беластоку таго не купіш, што можна дастаць у Трафімюка, — кажа Дзімітр Сцепанюк з Рыбалаў.

— Яму трэба прызнаць нейкі дыплом або ордэн, — дабаўляе Мікалай Дзянісюк, які ў рыбалаўскую краму завітаў аж з Кожына. Пытаю яго пра жніво.

— Што там жніво! Ужо ў мяне зжалі, — кажа гаспадар. — Учора пусціў „Бізона“ і з 20 сотак намалаціў 7 цэнтнераў жыта.

— Значыць, з гектара было б аж 35 цэнтнераў, — пералічваю ўголас.

— Так выходзіць, — згаджаецца гаспадар і зараз жа дабаўляе: — Але гэта найлепшы ў мяне ўчастак поля.

— Не, на ўраджай у гэтым годзе няма што наракаць, — уключаецца ў гутарку селянін з вёскі Рэпнікі — Вацлаў Юзвік. — Горш з кармамі, з сенам. Першага пакосу мы амаль зусім не змаглі сабраць...

— І другога таксама не збярэм, — дабаўляе Вітальд Анджэеўскі, таксама з Рэпнікаў. — Сенажаці ў нас яшчэ пад вадою...

— Бо лугі не меліяраваны, а гміна пра гэта не дбае...

— І з ПЗУ ніхто да нас не прыехаў, каб ацаніць затраты!

— Толькі ўсе крычаць: давай прадукты, разводзь жывёлу!

— Прабаваў я касіць і паламаў на балоце касілку. Добра яшчэ, што ў Трафімюка ёсць запасныя часткі...

Сяляне з Рэпнікаў ужо амаль крычаць. Адзін перабівае другога.

— Нашы рукі да працы, — кажа Дзімітры Сцепанюк з Рыбалаў, — а не дзеля таго, каб выцягваць іх да розных работнікаў дзяржаўнай адміністрацыі і іншых устаноў з просьбамі аб памілаванні, каб былі яны ласкавыя зрабіць тое, за што ім дзяржава плоціць грошы...

* * *

Крыху сумна робіцца на душы, слухаючы гэтыя нараканні. Ёсць жа ўрадавая пастанова аб паскораным спосабе выплачвання сялянам страховачных кампенсацый за затраты ад паводак. Чаго тады чакаюць працаўнікі ПЗУ ў Беластоку? Іх нядбальства даводзіць да таго, што ў Рэпніках (а таксама і ў ін-

(Працяг на стар. 5)



*Нашы рукі патрэбны дзеля працы, кажуць сяляне. На здымку Васіль і Анна Артэмюкі з Парцава ў Бельскай гміне.*

## IX З'ЕЗД БГКТ

## У ПРАЦЫ З МОЛАДДЗЮ НАША БУДУЧЫНЯ...

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ МІКАЛАЯ ГАЙДУКА — ДЭЛЕГАТА З БЕЛАСТОКА)**

Перш за ўсё М. Гайдук — старшыня гуртка БГКТ у Беластоку і член ГП БГКТ — адзначыў, што ў мінулыя чатыры гады ў нашай арганізацыі вялася разважлівая і настойлівая штодзённая праца без гучных фразаў і пустога лемантавання, і таму яна прынесла значныя дасягненні ў розных дзялянках, асабліва ў выдавецкай справе, развіцці аматарскага руху, праводзенні масавых культурных мерапрыемстваў. Падкрэсліў ён, што БГКТ можа ганарыцца сваімі дасягненнямі ў разбуджэнні зацікаўлення беларусаў Беласточчыны да сваёй народнай культуры. Пачалося гэта ад увядзення ў рэпертуар конкурсу „Беларуская песня“ мясцовых народных песень. Людзі ідуць на конкурс, каб і спяваць і слухаць блізкія іхняму сэрцу мелодыі. Пашана да ўласнай культурнай спадчыны выяўляецца таксама ў штораз большай колькасці і ва ўсё лепшым мастацкім узроўні інсцэніровак з тутэйшых абрадаў і звычаяў нашымі этнаграфічнымі калектывамі. Неабходна ўсімі сіламі пашыраць, узмацняць і заахвочваць да ўдзелу ў гэтых формах культурнай дзейнасці як мага больш людзей, асабліва моладзі.

Разам з нашымі старадаўнімі мелодыямі неабходна ўваскрэсіць нашыя колішнія народныя ўборы: адзежу, абутак, упрыгожанні і г.д. і на іх аснове падрыхтаваць некалькі камплектаў, па 6 ці 12 штук у кожным, касцюмаў для нашых калектываў. Рабіць гэта трэба прадумана і салідна, даручаючы справу спецыялістам з мастацкіх інстытутаў і спецыяльных майстэрняў. Няхай жа чаруюць людзей не толькі нашыя мелодыі, але і краса народных касцюмаў.



У культурна-асветнай дзейнасці, заўважыў М. Гайдук, трэба асабліва клапаціцца пра ўзмацненне зацікаўлення роднай беларускай мовай, пашырэнне яе ўжывання і дбайнасць пра яе культуру. Карысную ролю ў гэтым можа сыграць дэкламатарскі конкурс для школьнай моладзі і для дарослых, які неабходна зараз жа падрыхтаваць і папулярызаваць. Натуральным вынікам гэтага конкурсу павінна быць стварэнне ў нашых ліцэях, васьмікласных школах, вясковых гуртках БГКТ тэатраў беларускай паэзіі. Такія тэатры — надта цікавая і шырокадаступная форма культурнай дзейнасці, для яе не трэба спецыяльнай залы, дэкарацыі, касцюмаў. З такім тэатрам можна выступаць усюды. А праз яго можна дасканала папулярызаваць лепшыя здабыткі беларускіх пісьменнікаў розных эпох і пакаленняў, паказваць людзям красу нашай мовы, глыбіню пачуццяў і багацце вобразаў беларускай паэзіі, яе чуласць да чалавека.

— Якая цяпер наша праца з моладдзю, такая будзе будучыня нашага мастацкага руху, нашай культуры, тоесамасць нас, беларусаў Беласточыны, — заўважыў М. Гайдук. Ён звярнуўся да настаўнікаў беларускай мовы, каб яны размаўлялі з дзецьмі на роднай мове не толькі на ўроках у школе, але і на перапынках, на вуліцы, пры дарослых. Трэба, каб настаўнікі ўвесь час шукалі і знаходзілі ўсё новыя, цікавыя формы працы з дзецьмі на беларускай мове, а Галоўнае праўленне БГКТ у супрацоўніцтве з асветнымі ўстановамі, дзіцячымі і маладзёжнымі арганізацыя-

(Працяг на стар. 5)

## З ДУМКАЙ ПРА ВЫСОКІ ЎЗРОВЕНЬ

Адна з вядучых сярэдніх школ у Беластоцкім ваяводстве — гэта Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім. У бягучым годзе мінае 35 год яе дзейнасці. І тут паўстае пытанне: як гэтая школа ажыццяўляе сваё асноўнае заданне, якое Міністэрства асветы і выхавання акрэсліла словамі: „Дыдактычна-выхаваўчая дзейнасць агульнаадукацыйных ліцэяў павінна быць нацэлена на павышэнне ўзроўню падрыхтоўкі вучняў для іх далейшай навукі ў вышэйшых школах або ў пасляліцэйскіх прафесіянальных школах“?

Адказ на гэтае пытанне дае далейшы жыццёвы шлях абсальвентаў ліцэя і галоўным чынам — вынікі ўступных экзаменаў у вышэйшыя школы. Як даведваемся ад дырэктара школы мгр Аляксея Карпюка, гэтыя вынікі вельмі добрыя.

Каб атрымаць дакладнае ўяўленне ў гэтай справе, неабходна прасачыць за ходам уступных экзаменаў на працягу некалькіх апошніх год. І так, у гадах 1977-79 павялічылася колькасць абсальвентаў, якія добра здалі экзамены і былі прыняты ў вышэйшыя школы з 62,8% у 1977 г. да 82,3% у 1978 г. У 1979 г. гэты паказчык склаў 81,3%. Паказчыкі для ўсяе краіны ў тых жа гадах складалі адпаведна 44,9%, 42,7% і 45,1%

(Працяг на стар. 4)



*Пераможцы на цэнтральных элімінацыях XXII алімпіяды ведаў пра Польшчу і сучасны свет. Першы злева — заваёўнік першага месца А. Рубашэўскі, трэці — заваёўнік трэцяга месца М. Дораш. Фота Р. Круляк.*

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

## ПАЛІЦЫЙНАЯ АБВЕСТКА АБ ПАКАРАННІ РАЙСКА

Хоць і ляжыць у музеі пад шклом,
А ўсё ж цягне ад яе гарам.
Помнім, штандартэнфюрэр Фром,
Райска раістае зарыва, —
Прысуд твой і набатны звон
Непакараўшыхся калонаў,
Стальныя каскі наўздагон
І паміранне на каленях.
Яна пад шклом, ў гадоў адхоне.
А у жывых той боль далёкі
І мармуровыя далоні,
Што працягнуліся ў аблокі.

**Юрка Зубрыцкі**

## СЕНАКОС

Малаткі па бабках
Як буслы клякочуць
І плыве па вёсцы
Звон сталёвых кос.
І з расой выходзяць
Па кароткай ночы
На лугі сяляне —
Будзе сенакос!
У руках жылістых
Засвісталі косы,
Вострыя, як брытвы,
Голяць твар лугоў.
Лёг дыван квяцісты
Роўненька ў пракосах,
Млеюць, млеюць травы
Па слядах касцоў.
Выпесціла сонца
Кожную сцябліну
І сухое сена
Пахне быццам мёд.
Едзе на калёсах
Ласунак скаціны,
Каб у клуні сеяць
Водар цэлы год.

**Віктар Швед**

* ✲ *

Кульгавы дзень
па пояс у балоце
галава
не чуе
нерваў ног
рукі
шукаюць напрамку
у сэрцы — пажар
вочы
дзе вочы?

вакол
шэрасць
і
папулярны смех жабы
на смех
рэцэпт просты

да неба
плывуць вяроўкі

дрыгва моцная
сыціцца магіламі

знайсці нос
... пахне мёртвым сном

зноў
іскрыцца
заржавелая думка...

**Надзея Артымовіч**

* ✲ *

як комэд'янт
— выходіт
одбіваецься ногою от пудлогі
і пудымаецьця в гору:
о сёй — солдат
у его шабля куонь
і голова — за родіну

то короуль
вуон такі ценжар волочэ

а то тлум
— стоіт пэрэд люстром памэті
і осуджае сэбэ

хоч кожды
проклінае свуой дэнь
— для его жывэ
а тое чого нэ понімае
называе чудом або дурнотою

і залічае
до якіхся віэнкуов
альбо оаз на пустыні
але коб пэрэстаті жыті
нэ вб'е
як скорпён
собіэ жала

**З. Сачко**

# Юрка Баена



Ю. Баена нарадзіўся ў вёсцы Мокрае. Вучыўся ў бельскім белліцэі. Сёлета закончыў Люблінскі універсітэт (геаграфію). Магістэрскую працу напісаў на тэму: „Геаграфічна-эканамічная манаграфія Бельска Падляшскага".

на-ам-

### ЛЕС ТЫ МОЙ БЕЛАВЕЖСКІ

Лес ты мой белавежскі, мая ты калыска,
Святло непарушнае ў паводцы вёснаў,
Да цябе ідуць зоры вяршынямі соснаў
Пад рукі мацярынскай адвечную прыстань.

Зоры вечарам ціхім збіраюць дэталі,
Льецца з лютні крынічнай магутная песня —
Мая кроў шуміць раннім юнацтвам, прадвеснем,
Узлятаючыя грудзі рукі ўзнімаюць...

Лес ты мой белавежскі, з табой я — адзінства:
Штодзённым вяртаннем, галубіным успамінам
Глыбока ўваходжу ў край мой, у мацярынства.

А калі сустрэну завеі з парывам,
Прыбягу да цябе я сцяжынкай цяністай,
Засцеражэш ты мяне і прымеш як сына.

### АЛІМПІЙЦАМ

Агонь з Алімпа — жыватворны зор дыямент,
Агонь страліcты, чысты з краю Дыяніры
Нясіце к сэрцам ветразем Калумба, лірай —
Хай паварушыць заўтра непарушны камень!

Са стоязычным гімнам, алімпійскай одай
Бяжыце там, дзе ў небе ўсе пагаслі зоры.
Праз джунглі і пустыні, дзікія прасторы
Бяжыце шляхам светлым да ўсіх народаў.

Нясіце яркасць ноччу цёмнай і ў тумане
Як дар, благаслаўленне, выклік, як прысягу —
Хай паварушыць заўтра непарушны камень!

Са стадыёнаў свету як гарачу прагу
Нясіце ў сэрцах людзям шчырае жаданне,
Каб больш не паўтарылася Сант'яга.

* ✲ *

Як бразганне ў манатоннасці нястрымнай,
Дзень учарашні сёння непрыкметна гасне.
Чорнай ночы аб'явіць казялец няшчасце,
Трэсне сухі ядловец, накрыецца дымам.

За сабою час пакідае папялішчы,
Хоць аганёк каганцам тлее да змяркання.
Заўсёды мы стаім на вечных скрыжаваннях
І заўжды хвіліна як момант урачысты.

...Дарог не знаем. А ідзем праз сенажаці.
Бягуць нам на сустрэчу, уцякаюць воды.
У вачах прага і смеласць, і страх юначы...

Ноч за днём, год за днямі, новы стыль і моды...
І лёгка так згубіцца, каб не сэрца маці —
Яно днём і ноччу чэрціць карту пагоды.

### НА МАЗУРСКІХ АЗЁРАХ

*Сябру прысвячаю*

Калі ў папялішчы ночы гаснуць зоры,
З тугою за пурпурам, сінім арнаментам,
У пагоні за сонцам іскрай-дыяментам
Мы выплываем на Мазурскія азёры.

Досвіткам сонныя азёры як святыня.
Час застыў, без цыферблата — нерухомы.
Лес, поле і неба, як святыні іконы,
Чарот як верныя... А дзе ж німфы-багіні?

Устрымліваем вёслы... Дзень стаў над вадою.
Няхай хвалі акунуцца ў тонь бянтэжна,
Шолах наклоніцца бязвіннаму спакою.

Пейзаж як табу. Дзе ява? Дзе сон бязмежны?
З павуціння слыху тку сетку над зямлёю...
Сябар! Я чую шум дубоў Белавежы.



## Сакрат Яновіч

# НЯЗДЗЕЙСНЕНАЯ размова

Я хацеў пагаварыць з ім, няспешна, але ён не дапусціў мяне да слова, і зусім не таму, што гаварлівы, бо гэта не так звычайна, у яго было шмат чаго сказаць мне, і ён гаварыў, а я ўсё слухаў.

Стаяў ясны дзень з маразком, што спрыяе добраму самаадчуванню і дакладнасці думкі.

— Каб гэта чалавек ведаў пра тое, што чакае яго яшчэ, дык, мабыць, павесіўся б без асаблівага страху, — пачаў ён ад па застольнаму тандэнтных нараканняў. — Можна, халера, толькі здзіўляцца той радасці бацькоў, з якой вітаюць яны дзіця, сваю малечу. Я як сын селяніна ведаю, што мае дзяды не надта скакалі ад уцехі пры гэткай нагодзе... Ведаеш, халера, аб чым я раздумваю іншы раз? Аб фармулёўцы згвалтаванай жанчыны! Магчымая?

Мы памаўчалі.

— Тэлефон ад яго, ведаеш, ад майго колішняга прыяцеля, ад Алёшкі, быў настолькі нечаканы, што, халера, і падумалася: нармальны я ці ўжо не? — загаварыў ён пра сваё, канкрэтнае.

— Справа ў тым, бачыш, што ён, Алёшка, якіх-небудзь дзесяць гадоў назад, дапусціўся наконт зносін са мною такой недыскрэтнасці, ад якой я і сёння знаходжуся ў бесстабільным становішчы, як асобень, так сказаць, з пахіснутай псіхікай, крайнасцямі ў настроях і гэтак далей. Аднак жа, у тэлефонную трубку я гаварыў яму наступныя ветлівасці: „Добры дзень вам! Я буду вельмі рады бачыць вас..." — і да таго падобныя ліслівасці. Скончыўшы, я пакутліва прадумваў усё тое, менавіта, дзеля чаго гэта рэагаваў з дрыготкай надзеяй на ягонае запрашэнне!? Значыць, на якую халеру прыкідваўся я ўсцешаным! Відавочна было... блізкае ўсведамлення сабе, даўняе жаданне паразумецца з ім з безумоўнай шчырасцю, звычайна выказацца. Да самога тла! Не інакай гэта. Я пабег на сустрэчу ў дамоўленым з ім месцы, чамусьці злуючыся на халадок у грудзях, які, як памятаю, з'явіўся тады неўпрыкмет, быццам цьмяны боль зуба... Усё гэта вынырнула з пачуццяў маіх потым, пасля той сустрэчнай гутаркі, калі ўжо стала мне зразумелым, што за гады, якія прамінулі ад жахлівага здарэння, па сутнасці нічога не змянілася ў нашых суадносінах, бадай, адно тое, што не знайшлося ў мяне сілаў ні запалу, каб змагчы перапаўтарыць яму ўсенькія свае доказы, столькі разоў узнятыя мною ў сваю абарону.

Ён лакомліва закурыў. Зрабіў гэта ў вялікім забыцці, праз добрую хвіліну схамянуўшыся, што выпадае яму пачаставаць папяросаю і мяне.

Ён гаварыў далей:

— Мы, ведаеш, з'ездзілі кудысьці ў вёску: паехалі глядзець якуюсьці паўзабытую цэркаўку, што знаходзіцца недзе на ўскраіне Крынскай пушчы. Я і сам не магу зараз уцяміць: чаго мы ездзілі туды, пад тую цэрквіну, заімшэлую ўжо, наконадні руіны?.. Гэта паездка, уяві сабе, дала мне салідны перадых, хоць і не адбылося без звычайнай у такіх акалічнасцях балбатлівай гамонкі ў падарожнай легкавой машыне. Прытым — рагаталі мы, распасцёршы рукі, ажно слупянелі!.. Памятаеце, я ратаваўся ад дур-

(Працяг на стар. 4)

**БУГ У АГНІ**




Стаялі мы ля дарогі, якая цераз лес спалучае Слохі Аннапольскія з Турнай Малой. За намі, за лясной палянай, тырчаў сярод дрэў чорны купал разбуранага дота.

Аляксандр Лучко, селянін з вёскі Турна, спрачаўся з Пятром Плаксеем, даўнейшым ротным кухарам, пра палітрука Васіля Локцева. Кухар даказваў, што расстралялі яго фашысты на гэтай жа лясной паляне, шмат бліжэй дота „Чорны", а селянін бажыўся, што бачыў труп Васіля Локцева ўжо за дарогай.

— Я тут пасвіў тады кароў, — гаварыў ён. — І, вядома, якія пастушкі цікаўныя. Перш за ўсё хацелася нам зведаць, якія скарбы астаюцца ў гэтых бункерах. Аднойчы, памятаю, ідзем мы за каровамі вось гэтай дарогай, — паказвае ён лясную прасеку, — і бачым, што тут вецер разносіць нейкія паперы. Пачалі мы разглядацца і знайшлі невялікі, збіты з тонкай фанеры, ручны чамадан. Быў ён густа пакалаты вінтовачнымі кінжаламі. Крыху далей ляжаў труп рускага афіцэра.

Аляксандр Лучко ўважліва паўзіраўся вакол сябе, падышоў пару крокаў у адзін бок, павярнуў налева, пастаяў, падумаў і тады нам апавясціў:

— Гэта тут, — паказаў ледзь прыкметны бугорчык, на якім раслі нейкія фіялетавыя лясныя кветкі, а побач тырчаў, быццам жывы помнік, стройны ядловец. — Тут ён быў пахаваны. Вельмі плытка. Ледзь прысыпаны пяском, а рука то зусім знаходзілася наверсе. Меў чырвоную зорку, нашытую на рукаве. Па гэтым я перш за ўсё і пазнаў яго. І цэлая рубашка ў крыві, чырвоная, як гэтая зорка...

— А вы яго жывога ведалі? Сустракаліся з ім? — пацікавіўся Пятро Плаксей.

— А пэўна, што ведаў! — рашуча адказаў селянін. — Такога чалавека, як Локцеў, як жа ж не ведаць!

Сапраўды, намесніка камандзіра роты па палітычнай частцы, лейтэнанта **Васіля Ксенафонцьевіча Локцева** і яго жонку запамяталі многія жыхары надбужных вёсак. Найперш пачуў я пра яго ў Слохах Аннапольскіх. Расказвала **Марыя Сідарчук.** Яна з 1933 года нараджэння. Значыць, у 1941 годзе, калі гітлераўцы напалі на Савецкі Саюз, было ёй 8 годзікаў, і можа таму ў яе памяці так востра адлюстраваліся на ўсё жыццё дзіцячыя ўспаміны.

— Локцева я мала памятаю, — гаварыла яна мне, калі я год таму назад шукаў якіх-колеч слядоў, каб выявіць праўду і легенду пра гэтага воіна. — Я тады была першакласніцай, а ён дарослым чалавекам. Толькі памятаю, што быў ён высокім, прыгожым мужчынам. Памяшчаліся яны на кватэры ў нашага суседа. Сваіх дзяцей у іх, здаецца, тады яшчэ не было, а прынамсі я іх не памятаю. Гэты афіцэр часта прыносіў мне цукеркі, быў вясёлым, жартаваў з намі.

Так мне расказвала Марыя Сідарчук. Успомніў я таксама нешматлікія радкі з успамінаў Івана Шыбакова, якія адносяцца да палітрука Локцева. Ён адзначае:

*„Палітрук Локцеў быў смелы і энергічны чалавек, добры таварыш. Ён камандаваў ротай, асабліва правяраў гатоўнасць дотаў к бою. Калі ў гарэўшым доце „Холм" трымацца далей было немагчыма, Локцеў разам з байцамі выскачыў з дота і з кулямётам у руках намагаўся прабіцца праз кальцо немцаў. Бег і страляў... Тут жа, каля дота, яго расстралялі..."*

Так канчае свае ўспаміны пра Лок-

**(Працяг на стар. 6)**



*Веніяміна Яўстаф'еўна Вецянкова-Карабанькова, даўнейшая жонка Васіля Локцева, з іх сынам Віталіем. Здымак зроблены ў Гомелі летам 1955 года. Сын тут вельмі падобны на бацьку.*

**(Працяг са стар. 1)**

**У ПРАЦЫ З МОЛАДДЗЮ НАША БУДУЧЫНЯ...**

мі рэгулярна арганізоўвала конкурсы школьных драматычных калектываў, дэкламатарскія, лялек у беларускіх народных касцюмах, конкурсы на вершы і апавяданні і г.д. Для гэтага патрэбны спецыяльныя, інструктажовага характару, нарады настаўнікаў, працаўнікоў, гмінных і вясковых асяродкаў культуры, зацікаўленых гэтымі справамі членаў школьных бацькоўскіх камітэтаў. Вельмі важна, каб падрыхтаванае дзецьмі і настаўнікамі на беларускай мове паказвалася грамадству на розных мерапрыемствах у гмінах, гарадах, асяродках культуры, у Беластоку нароўні з іншымі выступленнямі. Гэта выдатна павысіць ранг беларускай мовы і зацікаўленне ёю.

Працу з настаўнікамі і школьнай моладдзю нельга абмяжоўваць толькі школамі, дзе вядзецца навучанне беларускай мове. Якраз трэба ўкладаць як мага больш энергіі і намаганняў на разгортванне працы ў тых школах, дзе такі прадмет не вывучаецца. Выхоўваць усё наша маладое пакаленне ў пашане да роднай мовы, культуры, традыцый, заахвочваць яго і прывучаць да актыўнага грамадскага дзеяння для дабра свайго асяроддзя і ўсяе нашай Радзімы, Народнай Польшчы, гэта наш асноўны абавязак.

IV класа Андрэем Рубашэўскім, які паходзіць з невялічкай вёскі Антонава каля Орлі. У той жа алімпіядзе вучань III класа Міраслаў Дораш родам з вёскі Кнарыды заняў III месца.

Немагчыма ў кароткім артыкуле расказаць пра ўсе дасягненні ліцэя і тыя фактары, якія пра гэта выраашаюць. Аднак нельга абмінуць таго, што ў ім выдатны педагог і дырэктар А. Карпюк належна арганізаваў і вядзе працу настаўнікаў над няспынным павышэннем іх прафесіянальных уменняў.

Праца ліцэя і яго настаўнікаў высока цэніцца асветнымі ўладамі і бацькамі вучняў. Педагогі гэтай школы за сваю дыдактычна-выхаваўчую працу атрымалі шмат выдатных ацэнак.

Доказам прызнання з боку бацькоў вучняў для працы школы з'яўляецца падрыхтаваны імі школьны сцяг. Урачыстасць яго ўручэння ліцэю наступіць напярэдадні II з'езда абсальвентаў і выхаванкаў ліцэя, які адбудзецца 20 і 21 верасня бягучага года.

Арганізацыйны камітэт II з'езда абсальвентаў, дырэкцыя школы і яе настаўніцкі калектыў перакананы, што многія выхаванкі гэтага ліцэя прыбудуць на з'езд. Іх удзел у з'ездзе будзе стымулам да далейшай творчай працы для дабра сацыялістычнага выхавання даручанай педагогам гэтага ліцэя моладзі.

**Сцяпан Трафімюк**

**(Працяг са стар. 1)**




шых вёсках) сяляне даходзяць да памылковага вываду, што аб іх справах не дбае дзяржава.

* ✲ *

Выязджаю за Рыбалы. На палях сельскагаспадарчага камбіната, быццам на святочным парадзе, адзін за другім ідуць велізарныя камбайны, косяць і малоцяць спелае жыта. Побач чакае авёс. Сёння або заўтра і ён пойдзе пад касу, пасыплецца ў адсекі збожжавых складаў. І гэта крыху развейвае мрочны настрой, які астаўся ў мяне ад гутаркі з рэпніцкімі сялянамі.

* ✲ *

Еду праз вёску Рэдуты ў гміне Орля. Раптам чую рытмічны стук забытага ўжо цэпа. Што за дзіва? Каму тут яшчэ хочацца круціць цэпам?

Аказваецца, што Іван Майстровіч і яго жонка Зоя здаўна займаюцца вырабам саламяных каробак.

— А на каробку, — паясняе гаспадар, — салома з-пад малацілкі не гадзіцца. Даводзіцца нейкіх дзве капы жыта абмалаціць цэпам.

Даўно я не трымаў у руках гэтай спрадвечнай сельскагаспадарчай прылады. Прашу дзядзьку Івана, каб дазволіў спрабаваць. Праз 15 мінут ужо амаль зусім задыхаўся.

— Вось бачыце, якая гэта цяжкая работа! — смяецца з мяне гаспадар і дабаўляе: — А я ж ад 15 гадоў узяўся быў за цэп. Найлягчэй, калі ўдваіх або нават і ўтраіх на таку...

* ✲ *

Не, не варта вучыць людзей, як найлепш малаціць цэпам, бо яго ў нас прымяняюць зараз толькі такія аматары, як дзядзька Майстровіч. Месца гэтай прылады ўжо даўно ў музеі. Сімвалам нашага часу, сімвалам вёсак і на Беласточчыне, з'яўляюцца зараз трактары і камбайны.

Вось каля Дубіч Царкоўных нейкі гаспадар кладзе стог жыта проста пад лесам. Заехаў туды ўласным трактарам. Знаёмімся. Гэта **Павел Леанюк** і яго жонка **Анна.** Побач бегаюць іх дзеці: пяцікласніца **Мірка** і малодшы **Андруша.** Яны таксама шчыра дапамагаюць сваім бацькам. Асабліва Мірка. Бярэ яна снапы жыта ад мамы і падае іх татку.

— Усё жыта не ўмясцілася ў клуні, — паясняе Леанюк, — дык мы дагаварыліся з суседам, каб наладзіць малацьбу на полі.

— Прыцягнем сюды малацілку, — дабаўляе яго жонка, — і тут жа абмалоцім. Будзе на насенне і на продаж дзяржаве.

* ✲ *

У Дубічах Царкоўных пытаю пра жніво начальніка гміны **Мікалая Чыквіна.**

— Калі дазволіць пагода, — кажа ён, — праз два-тры дні поўнасцю збярэм азіміну і прыступім да касьбы аўса. Зараз на нашых палях працуюць два камбайны з мясцовай спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў, тры камбайны са спулдзельні прадукцыйнай у Старым Корніне і яшчэ адзін камбайн з вёскі Сакі, які на маю асабістую просьбу пазычыла нам суседняя Кляшчэлеўская гміна.

— А што на сялянскіх палях? — пытаю начальніка.

— У гэтым вы асабіста пераканайцеся, — кажа начальнік. — Раю вам наведаць вёску Істок.

Пабываў я ў Істоку і сапраўды пераканаўся, што жніво там ужо фактычна закончана. А пра іншыя справы гэтай вёскі раскажу ўжо іншым разам.

* ✲ *

Падвечар вяртаўся я дамоў. Рэдка дзе на палях сустракаў яшчэ палоскі жыта. Затое штораз дарогу загароджвалі драбіністыя вазы, гружаныя сёлетнім плёнам. Канчаўся чарговы звычайны дзень нашай працавітай вёскі.

**Віктар Рудчык,**
Фота аўтара.



*Анна і Павел Леанюкі з Дубіч Царкоўных рашылі абмалаціць сваё збожжа проста на полі.*

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# Сяброўская гутарка

Мо на старонках „Нівы" і не месца на сяброўскія гутаркі, але інакш гэтага пакуль што назваць не ўмею. Калі б даць іншы загаловак, усе падумаюць, што вяду палеміку з Дзедам Кастусём. А я якраз палемізаваць не хачу. Хачу толькі бараніць свае погляды.

Дарагі Дзед Кастусь, найпраўдзіўшая праўда, што вы сказалі ў пачатку: дыскусія („Цалаваць — не цалаваць") нічога не зменіць у міжлюдскіх адносінах. А вы думаеце, наша пісанне ў іншых справах, якія датычаць штодзённага жыцця, зменіць многа? Колькі я ўжо напісаў (назлаваўся) пра надзённы беластоцкі хлеб, а яго як марнавалі, так і марнуюць. Ці тут нехта сапраўды дбае пра хлеб? Тут толькі ведаюць, што трэба змарнаваць столькі-та і столькі мукі, столькі-та і столькі вады і мо яшчэ чаго. Каб мець статыстыку і прэмію. А хлеб можа нагадваць і апількі. Я раіў беластоцкім хлебапёкам паехаць у Орлю, у Кляшчэлі, павучыцца, як пякуць добры хлеб. А ці паехалі?

Ой, прабачце, адступіў я крыху ад тэмы, хоць гэта і важная справа, бо хлеб ядзім кожны дзень і без яго жыць нельга, а без цалавання рук можна жыццё пражыць.

Вы крыху рэзанулі мяне па сэрцы, сказалі, што ўсюды стаўлю націск на сваё „я". Не, Дзед Кастусь, я не гіджуся чалавекам наогул, гідзіць мяне толькі яго неахайнасць. Я сваімі рукамі нічога не кранаю, калі яны брудныя. Проста ў мяне выпрацавалася такая рыса. Але, з другога боку, я не ведаю, ці кожны вытрэ носік малому дзіцяці, калі гэтага ніхто не бачыць. Баюся, што зноў дрэнна аба мне падумаеце (што хвалюся), але вы мяне прымусілі сказаць крыху больш пра сябе. Тут, на маю думку, справа не ў заразках, а ў эстэтыцы. Калі я бяру нешта прыдатнае да яды, дык абавязкова мыю рукі. Каб той, хто гэта бачыць, ведаў, як я адношуся да гігіены. Шмат людзей аб гэтым не думае, і пані „С" сярод іх. Калі б яна думала, дык сказала б усім „да пабачэння" і пайшла б дамоў. А то не, яна мусіць паказаць сваім сяброўкам, якім яна ў нас карыстаецца паважаннем. І я зусім не баюся сказаць праўду, няхай чытае і задумаецца, што трэба мець рукі чыстыя, і не толькі рукі.

А як жа часта праігрывае чысцюля. Аднойчы сябра на высокім крэсле запрасіў мяне ў свой кабінет на каву. Ішоў я па ўсходах, убачыў прыбіральню, зайшоў туды. Сябра таксама. Я памыў рукі, бо там было мыла і электрычная сушылка. У кабінеце сядзелі пару гадзін, пілі віно і каву. А калі выходзіў я ад сябра, зноў зайшоў у прыбіральню і памыў рукі. А ён гаворыць: — Што ты кожны раз рукі мыеш? Я раніцай памыю „Вацка" і цэлы дзень рук не мыю.

О, бачыце, ён думае, у мяне „Вацак" брудны, бо я мыю рукі.

Другі прыклад. Цягнік Беласток — Шчэцін. Дарога далёкая. Людзі дабываюць, што хто мае, і ядуць, і дзецям упіхаюць сваімі рукамі. Я меў саліцылавы спірт і перад ядой памыў ім рукі. Убачыў здзіўленне, пасля ўсмешкі. Мае паводзіны выдаліся людзям дзіковінкай. Не прывыклі да гэтага.

Я не ведаю, хто цалаваў абраз. Напэўна ўсе цалавалі, хто быў у гасцях. Гэта не мая справа, хоць і ў мяне ёсць на яе свой погляд. Аднак па непраспанай ночы і дню сярод пылу і не без „карчоў", добра было б нават халоднай вадой асвяжыцца. Тым больш, што вада і таз былі падрыхтаваны, і быў той (я), хто заахвочваў да гэтай працэдуры.

Чалавек — гучыць горда. І ён не павінен абмяжоўвацца спаннем і ежай. Зараз можаце мяне асадзіць: селянін не мае часу на чысціню. Так, гэта праўда. Але ж ён не есць дзесяць разоў у дзень. І кожны з нас не сядзіць увесь дзень у прыбіральні. Дастаткова, калі падмыецца пасля прыбіральні і памые рукі, калі ёсць нагода. Вось і цэлая турбота, а задавальнення многа. І тады кожны кожнай будзе цалаваць рукі з удзячнасцю і прыемнасцю.

І яшчэ адно. Дзед, не раўняйце ўсіх жанчын, бо не ўсе яны заслугоўваюць пашаны.

З глыбокай пашанай да вас, Дзед Кастусь —

**Васіль Петручук**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, я ўжо дзесяць гадоў замужняя. Маем двое дзяцей, якія ходзяць у школу, добрую кватэру, абое працуем. Але бяда ў тым, што муж мой п'е. Раней таксама любіў выпіць, але я не звяртала ўвагі на гэта, бо мой бацька не піў, дык я не ведала, што гэта такое. Але калі выйшла замуж і сталі мы жыць асобна, бо кватэру атрымалі хутка, я пераканалася, што гэта за бяда. Думала, што калі народзіцца дзіця, мо тады ён зменіцца. Але нарадзілася двое, а муж не змяніўся. Ён заўсёды мае апраўданне. То спаткаў таго ці іншага сябра, то штосьці каму аформіць памог. І так рэдка калі цвярозы. П'яны — чапляецца да мяне, да дзяцей. Дзеці плачуць. Калі не п'е — зусім іншы чалавек. Клапоціцца пра ўсё, у хаце памагае, справы афармляе. Але нервовы, нецярплівы штораз больш. Я і сваруся і добрым словам прашу, каб перастаў піць. Ён абяцае, але не можа вытрываць. Бацькі мне гавораць, каб развод узяла. Я ўжо і сама, калі муж п'яны ў хаце шуміць, аб гэтым думаю. Але калі супакоіцца, шкада. Гэта ж мой муж і бацька дзяцей.

Галіна

**Галіна!** Напэўна дзеці патрабуюць і бацькі і маці. Але перш за ўсё патрэбны ім спакой. Алкагалізм — гэта цяжкая хвароба. Яна вымагае лячэння і таму абяцанкі мужа, што пакіне кілішак, не здзяйсняюцца. Яго арганізм узалежніўся ад алкаголю. Адно выйсце — лячэнне ў супрацьалкагольнай парадні, толькі пераканаць яго, каб лячыўся, будзе нялёгка. Алкаголікі на сваю хваробу лячыцца не любяць. Але старайся, можа табе ўдасца. Калі не — дык найлепшым выйсцем будзе развод.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дзень добры, Астроне! Я ўжо не раз да цябе, дарагі Астроне, пісала, але не на кожны ліст магла ад цябе атрымаць адказ. Ну, але гэта нічога, разумею цябе, што ты не на кожны ліст можаш адпісаць.

Дык вось аднойчы прысніўся мне адзін хлапец (на якога я нават ніколі не звяртала ўвагі). Быццам мы з сяброўкай стаім і размаўляем з яе былым хлопцам (яна ўжо з ім не ходзіць) і падходзіць той хлапец. Ён мяне абняў і гаворыць, што я яму вельмі падабаюся. Я аглянулася за сябе і кажу яму, што мне сорамна ад такога камплементу. Я пачырванела. Ён пачаў пасля яшчэ нешта гаварыць, як гэта здарылася, што мы абое стаім блізка, ну, і на гэтым я прачнулася.

На другую ноч снілася мне, што ў мяне спераду выпалі два зубы. І я так гляджу, што іх няма, а пасля думаю сабе, што трэба будзе гэтыя два зубы ўставіць, бо сорамна будзе так хадзіць. Дарагі Астроне, напішы, што гэтыя два сны абазначаюць, а асабліва першы. Вельмі непакоюся, ці гэта не што дрэннае.

Галіна М.

**Галіна!** Не думаю, каб той хлапец стаў тваім хлапцом. Проста ў пэўным узросце дзяўчаты маюць цягу да такіх сноў. Што датычыцца другога сну, дык абазначае ён нейкую страту. Нехта з людзей, блізкіх табе, або адыдзе, або захварэе. Не датычыць гэта нейкіх кроўных тваіх сваякоў, паколькі твае зубы выпалі без крыві.

**Астрон**

## Ці ведаеце што

...назва **Кузніца** паходзіць ад заняткаў жыхароў. Яны выраблялі жалеза з дзярнінавай руды. Горад Кузніца быў заснаваны ў 1536 годзе, а гарадское права атрымаў у 1546 годзе. Кузніца была рачным портам, праз які сплаўлялі гаспадарчыя і лясныя плады да Нёмана.

У 1679 годзе паўстаў вадзяны млын. Некалькі гадоў пазней быў пабудаваны кляштар базільянаў. Праз Кузніцу прабягала чыгунка Варшава-Пецярбург.

**(яц)**



## TRUBADURZY

**Фота па заказу** *Заказваў М. Ляўчук з Тыневіч Вялікіх.*

**(Працяг са стар. 5)**

## ЛЕГЕНДА ПРА ЛОКЦЕВА

цева Іван Шыбакоў. Пры гэтым ён чыстасардэчна засцерагаецца, што ўсяго гэтага сам ён не бачыў, а толькі чуў расказ аднаго байца, з якім разам знаходзіўся ў палоне.

Маючы гэтыя, даволі скромныя звесткі аб палітруку 3-й роты, пачаў я пошукі яго сям'і. Дапамаглі таварышы з музея ў Брэсцкай крэпасці, прыслалі неабходныя адрасы.

Першая адазвалася жонка Васіля Локцева — Веніяміна Яўстаф'еўна Вецянкова-Карабанькова. Жыве яна на Беларусі, у Гомельскай вобласці ў пасёлку Радзеева. Ужо на пенсіі. Працавала ў службе аховы здароўя. Яна мне пісала:

*„Паважаны Віктар Максімавіч! Вельмі многа раз за пасляваенны перыяд даводзілася мне займацца „карэспандэнцыяй". Што аднак зробіш, — калі трэба, дык трэба! Усё зноў перажываць, успамінаць. Ледзь пачнеш забывацца, а тут раптам даводзіцца яшчэ раз варушыць старыя раны...*

*Мой муж, Васіль Ксенафонцьевіч Локцеў, быў вельмі добры, скромны, спагадлівы, смелы, вясёлы і жыццерадасны чалавек. У ім супалі ўсе лепшыя якасці, якія назаўсёды захаваліся ў маёй памяці. Ён астаўся ў маім сэрцы як прыкладны сем'янін і чулы ды кахаючы бацька свайго дзіцяці. Вельмі смелы і стойкі воін. Патрыёт сваёй Радзімы.*

*Мне давялося пражыць з ім роўна 2 гады, быццам адважыў нам гэта непадкупны лёс. Якраз 22 чэрвеня 1941 года мы збіраліся адсвяткаваць другую гадавіну нашага супольнага жыцця, але Гітлер-падлюга нарыхтаваў нам сваё крывавае святкаванне...*

*З Васілём Локцевым я пазнаёмілася 1 мая 1939 года ў вёсцы Буйновічы Лейчыцкага раёна, дзе я працавала фельчарам на Буйновіцкім лекарскім участку. Васіль прыбыў у вайсковую часць, якая знаходзілася ў ваенным гарадку Азерац — за 7 кіламетраў ад Буйновічаў. Яго накіравалі туды са школы ваенных палітрукоў. Сустракаліся мы раз у тыдзень. Часцей не даводзілася, бо жылі мы здалёк ад сябе. І гэтых сустрэч было ў нас не больш, чым 5-6. Такое між намі завялося рамантычнае каханне, што 22 чэрвеня 1939 года закончылася яно фармальным шлюбам.*

*Восенню 1940 года мы выехалі ў Заходнюю Беларусь, у вёску Бацікі тадышняга Сямяціцкага раёна (і цяпер таксама ўсе Бацікі — Бліжэйшыя, Сярэднія і Далейшыя — знаходзяцца ў Сямяціцкай гміне), а затым пераехалі на самую граніцу, ва ўмацаваны раён..."*

Так яны апынуліся ў Слохах Аннапольскіх. Сёння я ўжо не змагу прадоўжыць лісту Веніяміны Яўстаф'еўны, бо не хапае дзеля гэтага месца. Прывяду яшчэ толькі адзін урывак з яго — пра смерць яе даўнейшага мужа. Яна піша:

*„...Ноччу рэшта салдат пад камандаваннем майго мужа, Локцева Васіля Ксенафонцьевіча, рашылі прарвацца да сваіх. Аказалася аднак, што немцы дот ахоўвалі і ў час прарыву гэтай блакады мой муж загінуў..."*

Значыць, ужо трэцяя версія гібелі адважнага палітрука. І ці варта даходзіць, што тут легенда, а што гістарычная праўда?

І таму прашу даўнейшага кухара, Пятра Пятровіча Плаксея, а таксама і даўнейшага пастушка, селяніна з вёскі Турна Малая, Аляксандра Лучка, каб спынілі свае спрэчкі, ці Васіль Локцеў апошні раз бачыў сонца 10 метраў бліжэй, ці далей ад дота „Чорны".

**Віктар Рудчык**

## ФАЛЬКЛОР — ЖНІЎНАЯ




*Тэмна ночка, нэвідная, дорожэнька далекая,*
*дорожэнька далекая. (2 разы)*
*Дэ ж мы будэм ночоваті, вэчэроньку вэчэраті,*
*вэчэроньку вэчэраті? (2 разы)*
*В тэмнум лiесі пры орыэсі, пуд сосною голосною,*
*пуд сосною голосною. (2 разы)*
*Пуд сосною голосною з діўчыною молодою,*
*з діўчыною молодою. (2 разы)*

Ад Раісы Чарнякевіч, 1896 г. нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў 11 чэрвеня 1980 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

## Куток практычных ведаў




### ЗБРОЯ СУПРОЦЬ ПРАСТУДЫ (ЗЁЛКІ)

Не паспеем агледзецца, як наступяць асеннія халады, якія, на жаль, спрыяюць шматлікім захворванням. Так што катары, ангіны, грыпы і бранхіты пачнуць нас атакаваць з усіх бакоў, а не кожны арганізм зможа перад імі абараніцца.

Дык варта было б спрабаваць узброіцца на барацьбу з інфекцыямі, выкарыстоўваючы плады прайшоўшага лета і ранняй восені. Перш за ўсё варта прыдбаць у нашу аптэчку розныя лекі з зёлкаў, а асабліва, сушаны ліпавы цвет, паколькі гарачы напар з ліпавага цвету вельмі добра разаграрвае арганізм і ліквідуе тэмпературу.

Асабліва добрыя вынікі прыносіць ліпавы цвет, калі запарыць яго разам з сушанай малінай і пасаладзіць мёдам. Такі напар будзе яшчэ смачнейшы.

Адвар з ліпавага цвету добры для паласкання горла, ліквідуе запальныя станы. Каб падрыхтаваць яго, трэба ўзяць па чатыры сталовыя лыжкі сушанага ліпавага цвету на адну шклянку вады. Варым на малым агні мінут дваццаць. Бландзінкі могуць гэтым адварам паласкаць валасы пасля мыцця.

Зброяй нумар адзін супраць інфекцый будзе вітамін С, таму трэба шукаць у зёлках менавіта яго. Усе ведаюць, што найбольш вітаміна С знаходзіцца ў фруктах, але можа яшчэ не ўсе ведаюць, што найбольшыя яго скарбы, большыя, чым у лімонах, парэчках, журавінах, знаходзяцца ў ягадах дзікай ружы. Хто мае толькі такую магчымасць, павінен у месяцы верасні-кастрычніку збіраць гэтыя ягады і сушыць. Зрываюць іх вельмі спелыя, чырвоныя, хаця яшчэ цвердаватыя. Сушыць іх трэба па магчымасці як найхутчэй, спачатку нядоўга ў высокай тэмпературы (каля 90°С), пасля паступова зніжаць тэмпературу аж да 50°С. Трэба вельмі добра сачыць, каб не прыпаліць плады дзікай ружы, якія пасля сушкі павінны быць чырвоныя. Тыя, якія стануць цёмнымі (карычневымі ці чорнымі) становяцца бязвартаснымі.

Перад тым, як будзем сушыць, плады дзікай ружы трэба выцерці сухой сціркай, перарэзаць напалову і выняць з іх валаскі і насенне.

Сушаную дзікую ружу трымаем у мяшочках у сухім месцы. Напар з пладоў дзікай ружы паляпшае самаадчуванне хворых, а здаровым памагае асцерагчыся перад захворваннем. Вельмі смачныя таксама варэнне, джэм і мармелад, падрыхтаваныя са свежых і ачышчаных пладоў дзікай ружы. Рэкамендуюцца яны для людзей старэйшага ўзросту і тых, што маюць высокі крывяны ціск.

**Эскулап**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: К. займаў кватэру ў доме З. на аснове адміністрацыйнай пастановы і плаціў чынш, устаноўлены жыллёвым аддзелам паводле дзяржаўных норм. Паколькі паводзіны К. былі неадпаведныя, З. атрымала рашэнне суда аб прымусовым высяленні К. Аднак заступнага памяшкання для К. няма, і ён надалей займае памяшканне і плаціць паводле дзяржаўных норм. Дом цяпер пад публічную гаспадарку кватэрамі не падлягае, і З. магла б атрымаць значна вышэйшы чынш, каб аддала кватэру ў наймы. Ці можа З. патрабаваць большай кватэрнай платы?

АДКАЗ: Пасля таго, як рашэнне суда аб прымусовым высяленні К. увайшло ў законную сілу, умова найму перастае абавязваць наймальніка і наймаючага. К. лічыцца ад гэтага часу ўладальнікам кватэры са злым намерам. Згодна з законам, уладальнік са злым намерам абавязаны плаціць за карыстанне кватэрай і адказваць за ўсялякія шкоды, якія ўзнікнуць па яго віне. Плата павінна быць у велічыні, якую гаспадар атрымаў бы, каб мог аддаць у наём, і не залежыць ад размеру чыншу, які да гэтага часу плаціў К. З гэтага вынікае, што З. мае права патрабаваць платы за кватэру, якую ён атрымаў бы, калі б на аснове дабравольнай умовы пусціў кватаранта. Адносна платы З. павінен звярнуцца ў раённы суд.

Імпартгумар

## Я СКАЖУ

— Дзе?! Дзе гэты чалавек, якога я ненавіджу больш за ўсё на свеце?!

Гэты кіраўнік, які стукае кулаком па стале, трымае на нарадах „навыцяжку" падначаленых, шле ў іх адміністрацыйныя перуны і маланкі!

Гэты дзяржыморда, ад аднаго погляду якога імгненна пусцее калідор, а твары работнікаў робяцца белымі, як папера!

Гэты таленавіты падхалім, які ззяе пры візітах начальства, нібы надраеная крэйдай бляха!

Гэты крывадушнік і прайдзісвет, калі справа заходзіць да атрымання асабістых выгод!

Гэты бяздарны мысліцель, усе мазгавыя звіліны якога нагадваюць штрых-пункціры!

Гэты бяздушны бюракрат, у лабірынце догмаў і параграфаў якога можна заблытацца, нібы ў павуцінне!

Гэты раздатчык партфеляў і крэслаў для сваіх родзічаў, сяброў і знаёмых!

Гэты нікчэмны чалавек, які насуперак усяму займае чужую пасаду!

Дзе ён?

Кажуць, ён тут, у сталоўцы ?

Ага, вось ты дзе, прайдзісвет, падхалім, бюракрат, нягоднік, тупіца!

Зараз, зараз я падыду да цябе і скажу.

Так, я скажу! Скажу гучна, гледзячы пільна ў вочы:

— Добры дзень, паважаны Ануфрый Мадэставіч! Прыемнага апетыту!

**В. Гілевіч**

РАЗВУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## РУЧНІЧОК

Словы Янкі Насуты
Музыка Яўгена Петрашэвіча

Я сягоння раненька ўстала,
Нават не будзіла матуля.
Гладдзю ручнічок
вышывала,
Вышыла ў дуброве
зязюлю.

Вышыла на белым абрусе
Сінія валошкі ў полі.
Вышыла лясы Беларусі,
Стройныя над Нёмнам
таполі.

А яшчэ на памяць міламу
Вышыла да сэрца
сцяжынку.

Хай сцяжынку знае
дадому,
Хай прыходзіць зноў на
хвілінку.

Сёння павяжу ў карагодзе
Хлопцу ручнічок цераз
плечы,
Каб са мною жыў ён
у згодзе,
Помніў веснавыя сустрэчы.

Я сягоння раненька ўстала,
Вышла на світальныя
росы.
Сэрца мне ўзор падказала
Для цябе, мой мілы,
харошы.

З „Весніка Задрыпоніі"

### ПРАЦАЎНІКІ ГАНДЛЮ — ДЗЕЦЯМ

Загадчык крыватрубскага таварнага дома „Дзіцячы свет" І. Біцюкоўскі і старшы прадаўшчык Б. Біцюкоўская падарылі дачцы кааператыўную кватэру, а сыну — аўтамабіль, гараж і дачу.

### ДЭВІЗ РЫЖАГА АЛЁШКІ

Жанчын баяцца — у загс не хадзіць.

# НІЎКА

BARTAK

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Пасля некалькіх год удаўства Мортансен ажаніўся з сястрою сваёй нябожчыцы жонкі. Свой учынак ён растлумачыў так:

— Нельга, каб мужчына ў маім узросце прывыкаў да новай цёшчы!

*

Багаты тэхаскі жывёлавод зазірнуў у пакой дачкі, дзе настаўнік музыкі даваў ёй урок.

— Раз, два, тры, чатыры... раз, два, тры, чатыры...

— Выбачайце, — саркастычна заўважыў жывёлавод, — я наняў вас, каб вучыць дзяўчынку музыцы, а не арыфметыцы!

*

СІЗІФ

*Без слоў.*

### УСЯКАЕ БЫВАЕ

— Як гледачы наведваюць спектаклі? — спыталі ў дырэктара тэатра.

— Па-рознаму. Часам зала напалавіну пустая, а бывае і напалавіну поўнай...

### САМААЦЭНКА

— Твае спартыўныя дасягненні?

— Тры месяцы не куру!

„Я п'ю за здароўе чалавека", — хвалілася П'яўка.

Трымайце вуха! Каму прыслухацца—той здагадаецца

## ЦІМОХ І СТОГ

Ад кума шкандыбаў Цімох
Пад чаркаю, вядома.
А па дарозе — луг і стог.
І вёрст з пяток дадому.

Тут не гадала галава
Налева ці направа.
„Па мне яно хоць трын-трава", —
І занурыўся ў травы.

Прачнуўся позненька ўначы
Развіў месяц зяпу,
А піць, хоць кнігаўкай крычы,
Бо не смактаць жа лапу.

І раптам бачыць, што „ГАЗон"
З'явіўся на дарозе.
Тут стаў патроху кеміць ён,
Прыцішыўшыся ў стозе.

А стуль брыдуць учатырох
І раскрываюць карты:
Калі ўжо браць, дык гэты стог.
Здаецца, самы варты.

— Ты нам, браток, прадай стажок.
Ну, хто лічыць іх будзе?
Вось... на пачатку барышок.
Пасля навар. Як людзі.

І ўжо ж зварыла галава
Цвяроза, не з нацяжкай:
„Па мне яно хоць трын-трава", —
Цімох падаўся з пляшкай.

Казалі, не адзін разок
І не адзін, вядома,
Пастаражыў Цімох стажок,
Калі блудзіў дадому.

Ды папярхнуўся малаком
„Шалёным", як сказалі.
Бо не каровы ж языком
Тыя стагі злізалі.

**Хведар Чэрня**

### НЕ ХАПАЕ

Бацька і пяцігадовы сын селі ў аўтобус. Бацька заплаціў грошы за білет, а білета не атрымаў. Сын і пытае бацьку:

— А чаго ж вам не далі білета?

Бацька падумаў ды і адказвае:

— Таму, што ў вадзіцеля не хапае грошай на „Фіята".

ГУМАР З БАРАДОЙ

— Сведка, як ваша імя і прозвішча?

— Мікола Касаты.

— Колькі гадоў?

— Восемдзесят два.

— Дзеці ёсць?

— Нямашака.

— Сакратар, запішыце, што дзяцей няма. Ну, расказвайце, Касаты, што вам вядома ў гэтай справе.

— Іду я, значыцца, са сваім сынам Гаўрылам...

— Пачакайце. Вы ж казалі, што ў вас дзяцей няма?

— Але, няма...

— Ну, кажыце далей.

— Іду я з сынам Гаўрылам праз поле...

— З сынам Гаўрылам? Вы ж кажаце, што ў вас дзяцей няма.

— Ну, няма.

— А Гаўрыла?

— Якое ж гэта дзіця?.. Яму ўжо пяцьдзесят гадоў стукнула.

# Курёзы

### МОДНАЯ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

У апошні час амерыканская грамадскасць доўга ламала галаву над загадкавай з'явай: чаму прадметам ахвяравання сталі не грошы, як бывала ў мінулыя гады, а менавіта аўтамабілі? І не абы-якія, а найноўшай мадэлі, першакласныя, раскошныя лімузіны. Напрыклад, Генры Уайт, дзеяч таварыства так званай арміі выратавання ў Вашынгтоне, засведчыў, што толькі на працягу паўгода ён зарэгістраваў пяцьдзесят легкавых аўтамабіляў-падарункаў. А філантрапічнае таварыства „Дэвіс-Мемарыел-Гудвін" атрымала за гэты ж перыяд аж 94 буйнагабарытныя, найлепшыя, апошняй маркі аўталімузіны.

Між тым загадка гэтай своеасаблівай моды растлумачылася вельмі проста. У ЗША даў сябе адчуць энергетычны крызіс. Паліва значна паднялося ў цане. Таму нават багатыя амерыканцы імкнуцца пазбегнуць залішніх выдаткаў на асабістыя паездкі і пачалі аддаваць перавагу малалітражнай легкавой тэхніцы. А паколькі ранейшыя вялізныя лімузіны зараз немагчыма выгадна збыць праз камісійны гандаль (акцыянерныя кампаніі нават новыя прадаюць з цяжкасцямі), то ўладальнікі ахвяруюць іх дабрачынным арганізацыям замест грошай: не здаваць жа на металалом!

Не выпадкова тыя ж самыя дабрачынныя арганізацыі ўжо адмаўляюцца ад такіх падарункаў, якія робяцца па прынцыпу: на табе, нябожа, што мне нягожа. Тым больш — ніхто з „ашчаслўленых" беднякоў не можа карыстацца такім дарагім падарункам.

Між намі

**Калі карась скача на патэльні, гэта яшчэ не абазначае, што ён аптыміст.**